


# ПРЫГОДЫ ПАЎЛІНКІ, АНТОСЯ І МУРАША ФЕЛІКСА

***Дружа, ты трымаеш у руках магічную кнігу: яна можа дапамагчы табе ператварыцца ў чараўніка! Бо чараўнік — гэта той, хто сваімі сіламі змяняе жыццё (сваё ды іншых) да лепшага. А калі некалькі чараўнікоў дзейнічаюць супольна — то ім па плячы вырашыць амаль любую праблему!***

***Мы спадзяемся, што казка цябе зацікавіць не толькі таму, што ў ёй вядзецца пра прыгоды. Вядома, прыгоды — гэта заўсёды цікава. Аднак апроч займальнай гісторыі, гэтая кніга месціць у сабе некалькі практычных падказак для тых, хто жадае адчуць сябе чараўніком і навучыцца мяняць наваколле да лепшага. Гэта проста, галоўнае — пачаць.***

— Мам, а чаму сонечныя зайчыкі — гэта менавіта сонечныя зайчыкі, а не мядзведзікі? Або не коцікі? — высунуўшыся з вакна машыны, Паўлінка мружылася ад маладога чэрвеньскага сонца.

— Коцікі і так захапілі свет! Добра, што сонечныя зайчыкі— менавіта зайчыкі, — адгукнуўся бацька з пярэдняга сядзення.

— Паўлінка, не высоўвайся з вакна! — гукнула маці, якая засяроджана кіравала машынай.



Ад горада, у якім жыла Паўлінка з бацькамі і братам Антосем, да гарадка, у якім жылі яе бабуля з дзядулем, было каля гадзіны язды на машыне, але гэты час падаўся сястры з братам вечнасцю — так даўно яны марылі пра гэтую паездку. Таму калі яны ўрэшце прыехалі, маці нават не паспела як след прыпаркавацца, а Паўлінка з Антосем ужо выскачылі з машыны і навыперадкі паімчалі да дома.

— Мы прые-е-е-халі! — пераможна выгукнула Паўлінка, першая пераскочыўшы праз парог кватэры.



* * *

Па абедзе, падсілкаваўшыся блінцамі, напечанымі бабуляй, і памахаўшы бацькам, якія выправіліся назад дадому, Паўлінка з Антосем вырашылі пагуляць у цэнтральным парку горада. Гэта было адно з улюбёных месцаў адпачынку мясцовых жыхароў: дзеці тут гулялі ў хованкі і салачкі сярод дрэваў, закаханыя шпацыравалі каля клумбаў з кветкамі, а старэйшыя людзі любілі ўладкавацца на лаўках у цэнтры парка, гутарыць, драмаць ці пазіраць на фантан. Калі брат з сястрой наблізіліся да галоўнага ўвахода парка, то пабачылі, што на браме вісіць вялікі іржавы замок. Антось нахмурыўся:

— Слухай, хіба раней паркавую браму замыкалі?

— Неа, ніколі! — азвалася Паўлінка. — Мо зойдзем з іншага ўвахода? — прапанавала яна.





Яны з Антосем абыйшлі парк. Але і другі ўваход быў замкнуты.
— Я заінтрыгаваны, — пацёр рукі Антось.
— Палезлі праз агароджу! — вочы Паўлінкі загарэліся.
Антось падсадзіў Паўлінку і калі тая больш-менш трывала ўмацавалася наверсе агароджы, таксама туды ўскараскаўся.
— Так, а зараз я саскочу долу і дапамагу табе зле… — але не паспеў Антось скончыць фразу, як агароджа сказала “Кррррэк!”… І дрэвы ў вачах Паўлінкі і Антося перакуліліся дагары нагамі.
Ачомаліся брат з сястрой на зямлі. Паўлінка пацерла плячо, адплявалася ад пяску і зірнула на Антося. Той ладзіў праверку, ці ўсе ягоныя часткі цела засталіся пры ім.
— Ты ў парадку? — пацікавілася Паўлінка.



— Здаецца, так, — азваўся Антось. — І як гэта мы з табой так навярнуліся?

— Агароджа ўжо, відаць, ад старасці згніла, — сцепанула плячыма Паўлінка, узняла вочы і аслупянела. Над яе галавой узвышаўся рамонак. Менавіта "ўзвышаўся", бо ён быў вышынёй з дзевяціпавярховы дом. Над рамонкам кружляў жоўта-чорны паласаты дырыжабль і гудзеў басам. І недзе высока-высока, дакранаючыся да самога неба, як Вялікая кітайская сцяна, рыпелі вершаліны соснаў-хмарачосаў.

— Што гэта?.. — выдыхнула Паўлінка. — Антось!

Антось узняў галаву. Проста над ім ззялі два агромністыя жоўтыя вокі. Да вачэй прыкладалася поўная зубоў пашча, з якой навісаў велічэзны пунсовы язык.



— Гэта дакладна язык? Такіх вялікіх языкоў не бывае ў прыродзе, — пранеслася ў галаве ў Антося, але далей разважаць ён не стаў, і яны з сястрой як мага хутчэй пусціліся прэч.
— Антось, сюды! — выгукнула Паўлінка і, схапіўшы брата за руку, скочыла ў нейкі тунэль. Яны прызямліліся больш-менш мякка. Вакол панавала непраглядная цемра. Недзе зверху было чуваць здушанае гырканне і сапенне.
— Ты штосьці разумееш? — адчайна прашаптала Паўлінка.
— Нічога, апроч таго, што з памерамі здарылася нешта дзіўнае: усе прадметы павялічыліся ў сотні разоў!
— Павялічыліся, анягож. Або... Або мы з табой паменшыліся! — раптам здагадалася Паўлінка. — Усе прадметы засталіся тых жа памераў, як і былі дагэтуль, а вось мы зрабіліся зусім маленькімі. Як мурашы!
— Так. Сярэдні рост рудога мураша — каля сантыметра, акурат як ваш цяперашні рост. Ну, калі меркаваць наўскідку, — пачуўся тонкі голас з глыбіняў цемры.
Тут цемру прарэзаў праменьчык святла і Паўлінка з Антосем пабачылі мураша ў касцы і з маленечкім ліхтарыкам у лапцы. Ён быў аднолькавага з імі росту.
— Маё імя Фелікс. Прыемна пазнаёміцца, — мовіў мураш і працягнуў на знак знаёмства лапку.
Паўлінка з Антосем стаялі, аслупянеўшы.
— О, даруйце мне, калі ласка. Дзе мае манеры? — пляснуў сябе па лбе мураш. — Я толькі з працоўнай змены і яшчэ не паспеў пачысціцца, — патлумачыў ён, абтрасаючы лапкі ад зямлі.
— Ды няважна, — схамянулася Паўлінка. — Мы таксама мурзатыя. Я — Паўлінка, а гэта — Антось.

— Вельмі прыемна! — усцешана сказаў Фелікс. — Ну, што ж мы стаім? Прапаную завітаць у госці ў наш мурашнік: мы акурат можам да яго дайсці па гэтым нашым падземным тунэлі.
— Мы б з радасцю, але... Але нам бы спачатку разабрацца, што адбылося, — няпэўна мовіў Антось.
— А блінцы ў вашым мурашніку пякуць? — пацікавілася, у сваю чаргу, Паўлінка.
— Блінцоў мы не ямо, а вось сочывам з яловых шышак з задавальненнем вас пачастуем, — паабяцаў мураш. — Падсілкаваўшыся, мяркую, будзе прасцей ва ўсім разабрацца.
— Згодная! — ухваліла ідэю Паўлінка.
Пакуль Фелікс вёў міні-Паўлінку з міні-Антосем па танэлі, брат з сястрой распавялі яму пра сваё незвычайнае падзенне, пасля якога яны зрабіліся зусім маленечкімі, пра паласаты дырыжабль і пра невядомага монстра.





— Мяркую, дырыжаблем была пчала, а монстрам — Рык.

— Рык? — у адзін голас перапыталі Анстось з Паўлінкай.

— Так. Мы так клічам мясцовага бадзяжнага сабаку, які з нядаўніх часоў жыве ў парку. Кажуць, ён згубіў гаспадароў і здзічэў. Яго баяцца ўсе мясцовыя жыхары, бо ён агрэсіўны: увесь час на ўсіх рыкае. Ніхто да яго наблізіцца не можа.



— І вы, мурашы, яго баіцеся? — удакладніў Антось.

— Не, на нас ён нават не зважае. І мы на яго, адпаведна. У нас цяперака іншых праблемаў хапае. Вы паспелі сёння агледзець парк? — пацікавіўся Фелікс.

— Не, —разам азваліся Паўлінка з Антосем.

— Ну, калі б паспелі, то вы б пабачылі, што ён зусім здзічэў. Мы, паркавыя жыхары, нават яго ўжо не паркам завем, а лесам. Апошнім часам яго зусім занядбалі. Людзі сюды ўжо амаль не ходзяць. Фантан даўно не працуе, арэлі паржавелі, клумбы зараслі пустазеллем… — уздыхнуў Фелікс.— Працы нам, мурашам, дадалося нямала: апроч сваёй гаспадаркі і будаўніцтва мурашніка, нам трэба сачыць і за парадкам —неяк збіраць ветралом, смецце, якое прыносіць ветрам з горада… Увогуле, усе жыхары парка-леса робяць, што ім па сілах. Дзядзька крот часам падрыхляе зямлю на клумбах, на якіх яшчэ засталіся сякія-такія кветкі, каб

ім было, чым дыхаць. Часам завітваюць пчолы-валанцё-ры, каб тыя кветкі апыліць. Птушкі мясцовыя час ад часу ладзяць музычныя вечары, каб нам, паркавым жыхарам, не было занадта сумна...

— А вам сумна? — са спагадай запытаў Антось.

— Ну, па шчырасці, так. Мы ўсё-ткі прызвычаіліся, што ў нашым парку светла-ветла, шмат гасцей... Аднойчы нават, памятаю, духавы аркестр увесну іграў! І фантан быў вельмі дарэчы: птушкі з яго піць любілі. А цяпер неяк зусім сумна зрабілася, — прызнаўся Фелікс.

— Ну, хоць мы з Антосем да вас завіталі ў госцейкі! — паспрабавала падбадзёрыць новага знаёмца Паўлінка. — Праўда, невядома, як нам адсюль цяпер выбрацца... Яшчэ і Рык ходзіць па парку...

— Ну, Рык не праблема: мы можам вывесці вас з парка па падземным тунэлі...— пачаў казаць Фелікс.

— Ура! — узрадаваўся Антось.









— Ура-то ўра, толькі для пачатку трэба гэты тунэль, кхм, збудаваць, — Фелікс развёў лапкі ў выбачэнні.

— Ой, але гэта ж, напэўна, зойме шмат часу. А нас бабуля з дзядулем будуць чакаць, хваляваецца… — засмуцілася Паўлінка.

— Па маіх разліках, часу сыйдзе не так шмат: у нас ёсць некалькі тунэляў, якія набліжаюцца да паркавай агароджы. Давядзецца проста зрабіць адно адгалінаванне, па якім вы зможаце прайсці, каб падняцца на паверхню з іншага боку агароджы. Мяркую, калі ўсе мурашы з нашага мурашніка спраўна возьмуцца за працу, да вечара павінны паспець, — абнадзеіў Паўлінку з Антосем Фелікс.

Неўзабаве Фелікс прывёў сваіх новых сяброў у мурашнік, пазнаёміў іх з іншымі мурашамі і, як і абяцаў Паўлінцы, пачаставаў іх сочывам з шышак. Пакуль Паўлінка з Антосем падсілкоўваліся, Фелікс абвесціў праз Галоўнага дыспетчара мурашніка тэрміновы ўсемурашовы сход.



Прыкладна праз паўгадзіны канферэнц-заля мурашніка запоўнілася мурашамі. Было відаць, што большая частка з іх была заспетая абвесткай падчас працы: на галовах шмат якіх мурашоў сядзелі каскі, хтосьці абтрасаў ад зямлі лапкі, хтосьці — спрабаваў зручней прыладзіць на плячы трэсачку, якую некуды цягнуў акурат тады, калі дыспетчар абвесціў сход.

— Сябры! — распачаў сваю прамову ў мікрафон Фелікс. — Прашу прабачэння, што адарваў вас ад працы, але ў нас узнікла пазаштатная сітуацыя. Нам трэба дапамагчы Паўлінцы і Антосю вярнуцца дахаты. Каб яны выбраліся з нашага парка, не сутыкнуўшыся з Рыкам, нам трэба як мага хутчэй збудаваць яшчэ адно адгалінаванне ад падземнага тунэля, якое выведзе іх у горад. Давайце для пачатку прагаласуем і высветлім, колькі з нас за тое, каб узяцца за гэтую пільную працу.

Мурашы ў залі пачалі падымаць лапкі.



— Ого, я ні разу яшчэ не бачыла адкрытага галасавання! — узрушана прашаптала Паўлінка на вуха Антосю. — Гэта ж так называецца, правільна?

Антось кіўнуў.

Тым часам амаль усе мурашы паднялі лапкі і Фелікс працягнуў:

— Ну, відавочна, што большасць прагаласавала "за", таму давайце адразу вызначымся, хто чым зоймецца. Хто жадае непасрэдна капаць тунэль?

Над натоўпам мурашоў паднялося з сотню лапак.

— То калі ласка, падыходзьце да мурашкі Кропелькі, і яна ўнясе вас у спіс. Далей. Хто накіруецца ў лес, каб сабраць патрэбныя матэрыялы? Пералік матэрыялаў я падрыхтую цягам бліжэйшай гадзіны, — працягваў Фелікс.

Над мурашыным натоўпам зноў падняліся лапкі.

— Цудоўна, вы ўсе таксама падыходзьце да Кроплі! Хто гатовы весці ўлік пастаўкі матэрыялаў? Зося? Цудоўна, будзеш нашай кашталяншай. Хто зоймецца транспартыроўкай ежы для мурашоў, якія будуць працаваць на будоўлі? Калі ласка, праходзьце ўсе да Кроплі, яна складзе спісы. Здаецца, усё збольшага вырашылі, таму зараз я прапаную зладзіць невялічкі адпачынак на гадзіну, пакуль я накідаю план вядзення працаў і падрыхтую разлікі па матэрыялах, — скончыў прамову Фелікс.

Мурашы пачалі паціху разыходзіцца з залі, а Фелікс спусціўся са сцэны.

— Мы ж зможам вам неяк дапамагчы ў пабудове тунэля? — пацікавіўся Антось.

— Канешне! Кожны зробіць свой унёсак у справу. З матэматыкай у вас як? — запытаў Фелікс.

— Добра! — хорам адказалі Паўлінка з Антосем.

— Гэта ўсё гены, — сур'ёзна дадаў Антось.

— Вось і цудоўна! — задаволена пацёр лапкі Фелікс. — Дапаможаце мне рабіць разлікі па колькасці неабходнага нам матэрыялу.

Пакуль Фелікс з дзецьмі вылічваў, колькі ім спатрэбіцца матэрыялаў — карэньчыкаў ды трэсачак, каб будаваць тунэль, мурашка Кропелька падрыхтавала спіс працоўных зменаў мурашоў і пералік неабходных будаўнічых прыладаў.

Неўзабаве праца закіпела: група мурашоў накіравалася ў лес па неабходныя будаўнічыя матэрыялы. Вярнуўшыся, яны перадалі іх мурашам, якія ўжо распачалі капаць тунэль. Праца рухалася даволі спраўна: капалі мурашы прафесійна, калі нехта стамляўся, яго замяняў іншы мураш са спіса.

Антось і Паўлінка ўзяліся былі дапамагаць будаўнікам, схапіўшы адну з трэсачак, але здолелі зрабіць усяго некалькі крокаў і выпусцілі яе з рук.

— Цяжкая! — здзіўлена выдыхнуў Антось.

— А то! Гэта мы, мурашы, можам цягаць вагу, якая перавышае нашу ўласную вагу ў пяцьдзесят разоў. А вы ўсё-ткі





не мурашы. Хоць і памерам з нас, — падміргнуў Паўлінцы і Антосю Фелікс. — Але вы і так здорава дапамаглі з разлікамі, таму пакуль адпачніце. У кухні яшчэ мусіла застацца крыху сочыва з шышак, — дадаў мураш.

Аргумент пра сочыва стаўся вырашальным.

Як і прадказваў Фелікс, да вечара тунэль быў гатовы. Усім будаўнікам былі выдадзеныя бонусныя слоічкі з сочывам, Паўлінка з Антосем урачыста падзякавалі ўсім сваім новым сябрам. Мурашы пачалі паціху разыходзіцца на адпачынак.

— Нам ужо таксама прыспеў час ісці, бо бабуля з дзядулем будуць вельмі хваляваацца, што мы так надоўга зніклі, — звярнулася Паўлінка да Фелікса.

— Канешне-канешне, пра што я толькі думаю!.. Дый, апроч усяго, вашым бабулі з дзядулем яшчэ трэба будзе неяк прызвычаіцца да вашага новага памеру. Напэўна, вам трэба будзе ў якасці ложка завесці карабок ад запалак…

Паўлінка з Антосем ажно войкнулі.

— І праўда, мы ж цяперака зусім маленечкія. Як жа нам пераадолець усю тую адлегласць ад паркавай брамы да нашага дому? — схапіўся за галаву Антось.
— Мы і за месяц не дабярэмся, робячы крокі такімі маленечкімі ножкамі, — пацвердзіла Паўлінка.
Фелікс разгублена замёр.
— Я магу дапамагчы, — пачуўся звонкі голас аднекуль збоку.
Фелікс, Паўлінка і Антось павярнулі галовы. Побач стаяла Кропелька.
— Я магу дапамагчы! —паўтарыла яна і ўсміхнулася. — Наш гукавы радар паказаў, што ў парк нядаўна завітала група пчолаў. Мяркуючы па ўсім, у іх сёння чарговы валанцёрскі Дзень апылення: яны прыляцелі дапамагаць кветкам, якія яшчэ засталіся ў парку, разносіць іх пылок. Я думаю, сярод гэтых пчолаў мусіць быць мая сяброўка, пчала Жужа: яна амаль заўжды валанцёрыць у парку з апыленнем. Можна з ёю звязацца і папрасіць, каб яна падкінула вас дадому на сваёй спіне.
— Ух ты! Я ніколі раней не лятала на пчолах! — узрушылася Паўлінка.
Усё адбылося хутка: мурашыны дыспетчар звязаўся з групай пчолаў. Сярод іх сапраўды апынулася Жужа. Кропелька з ёй пагутарыла і Жужа пагадзілася дапамагчы Паўлінцы і Антосю, узяўшы іх “на борт”. Было дамоўлена, што Жужа падбярэ дзяцей на выхадзе з падземнага тунэля, за брамай парка.
— Я вас правяду! — падахвоціўся Фелікс.
Паўлінка з Антосем яшчэ раз падзякавалі за дапамогу Кропельцы і разам з Феліксам рушылі ў тунэль. Да выхада яны дайшлі даволі хутка, а там іх ужо чакала Жужа.



— Прыемна паз-з-з-знаёміцца, сёння я вашая прыватная таксоўшчыца, — прыязна прагудзела пчала.

— Дзякуй, што пагадзіліся нас падвезці… Ой, пад…ляцець? — мовіла Паўлінка.

— Дзякуй вам вялікі за ўсё! — звярнуўся, у сваю чаргу, Антось да Фелікса. — Не ўяўляю, што б мы рабілі без вашае дапамогі.

Паўлінка падышла да Фелікса і моўчкі яго абняла. Той крыху сумеўся, але выгляду не падаваў.

— Ды няма за што! — махнуў лапкай мураш. — Мы заўжды дапамагаем тым, каму гэта трэба, і імкнемся вырашаць праблемы сваімі мурашынымі сіламі.

Потым Фелікс дапамог Паўлінцы і Антосю ўскараскацца на Жужу і махаў ім услед, пакуль пчала набірала вышыню.

Жужа ляцела, цёплы ветрык кудлаціў валасы Паўлінкі і Антося, у паветры пахла язмінам. Паўлінка адной рукой трымалася за жорсткую паласатую поўсць пчалы, а другой махала ўсім птушкам і казюркам, якія праляталі побач.

— Паўлінка, трымайся абедзвюма рукамі, а то… — Антось не паспеў скончыць фразу, як Жужа зрабіла рэзкі віраж, беручы курс на дом бабулі і дзядулі, які паказаўся на рагу вуліцы… Паўлінка, выпусціўшы з рукі поўсць Жужы, пача-

ла саслізгваць з яе спіны. Антось паспеў ухапіць яе за рукаво, але сам згубіў раўнавагу — і з дружным крыкам "АААААААА!!!" яны абое паляцелі ўніз, у густую траву-джунглі. У іхніх вачах усё замільгала.

Паўлінка расплюшчыла вочы, бо яе нос нешта казытала. Гэта быў дзьмухавец: звычайны, жоўты, позне-летні дзьмухавец. І ён казытаў Паўлінцы нос, а не ўзвышаўся над ёю шматпавярховікам.

— Антось! — ускочыла Паўлінка на ногі. — Мы зноў зрабіліся такімі як былі!

— Я ўжо зразумеў, — Антось стаяў побач і паціраў сваю спіну.

— Бяжым хутчэй да бабулі з дзядулем, трэба ім усё распавесці! — Паўлінка была такая ўзрушаная, што ажно прытанцоўвала.

— Бяжым, толькі пад ногі глядзі — а то ты ў нас вядомая акрабатка, — мовіў Антось.

Брат з сястрой хутка падняліся па сходах на другі паверх і ўвайшлі ў незамкнутую кватэру.

— Бабуля, дзядуля! Мы дома! — выгукнула Паўлінка. — Вы ні за што не здагадаецеся, што з намі здарылася!





## Эксперымент «Сямейнае рашэнне»

*Дружа, звярні ўвагу на тое, якім чынам мурашы вызначыліся з тым, як будуць дапамагаць Антосю і Паўлінцы. У першую чаргу на тое, што рашэнне было разгледжана і прынята супольна з улікам меркавання кожнага.*

Менавіта такім чынам прымаюцца самыя эфектыўныя рашэнні і дасягаюцца добрыя вынікі. Прапануем табе скарыстацца гэтым метадам і склікаць сямейны сход, каб паспрабаваць вырашыць якое-небудзь пытанне. Усе неабходныя для прыняцця сямейнага рашэння прылады ты знойдзеш напрыканцы казкі. Ніжэй ты можаш занатаваць асноўныя ідэі і вынікі.

Нататкі:

Сфармулюй пытанне, якое ты хочаш вынесці на сямейнае рашэнне:

..............................................................................................................................

..............................................................................................................................

Ніжэй сфармулюй варыянты адказаў:

1. ..........................................................................................................................

2. ..........................................................................................................................

Не забудзься выкарыстоўваць налепкі (іх ты знойдзеш напрыканцы казкі), каб пазначаць у кружочках варыянты адказаў.

| Імя асобы, якая прайшла апытанне: | Варыянт адказу №1 | Варыянт адказу №2 |
|---|---|---|
| 1. ............................................ | | |
| 2. ............................................ | | |
| 3. ............................................ | | |
| 4. ............................................ | | |
| 5. ............................................ | | |
| 6. ............................................ | | |
| 7. ............................................ | | |
| 8. ............................................ | | |
| 9. ............................................ | | |
| 10. .......................................... | | |

Сфармулюй пытанне, якое ты хочаш вынесці на сямейнае рашэнне:

.....................................................................................................................................

.....................................................................................................................................

Ніжэй сфармулюй варыянты адказаў:

1. .................................................................................................................................

2. .................................................................................................................................

Не забудзься выкарыстоўваць налепкі (іх ты знойдзеш напрыканцы казкі), каб пазначаць у кружочках варыянты адказаў.

| Імя асобы, якая прайшла апытанне: | Варыянт адказу №1 | Варыянт адказу №2 |
|---|---|---|
| 1. ................................................ | | |
| 2. ................................................ | | |
| 3. ................................................ | | |
| 4. ................................................ | | |
| 5. ................................................ | | |
| 6. ................................................ | | |
| 7. ................................................ | | |
| 8. ................................................ | | |
| 9. ................................................ | | |
| 10. ............................................. | | |

* * *

Пакуль бабуля паспешліва падкладала ўнукам аладкі, а дзядуля, седзячы за сталом, піў сваю вечаровую гарбатку, Паўлінка з Антосем наперабой распавядалі пра свае прыгоды ў парку.

— ...І ўяўляеце, у іх у мурашніку — больш за трыста хадоў, і падземныя тунэлі ёсць! — захоплена казаў Антось.

— Ага, а як яны спраўна працуюць! — дзялілася ўражаннямі Паўлінка. — Рраз! — І хутка склалі план працаў. Два! — І падрыхтавалі спісы валанцёраў. Тры! — І размеркавалі паміж сабой усе абавязкі. Яны цэлы новы тунэль за вечар збудавалі, уяўляеце?

Дзядуля моўчкі слухаў расповед унукаў і толькі пасміхаўся ў вусы.

— А ўвогуле, тое, пра што вы цяпер распавядаеце, мае ёмістую назву ў нашай мове — ТАЛАКА.

— Талака? —хмыкнуў Антось. — Ніколі не чуў такога слова.



— Талака — гэта супольная дабраахвотная праца, узаемадапамога, — патлумачыў дзядуля. — У вёсачцы, з якой я паходжу, талака была звычайнай справай: аднавяскоўцы дапамагалі адно аднаму ў патрэбе. Напрыклад, мы ўсёй вёскай дапамагалі нашым суседзям будаваць лазню. А маім бацькам, у сваю чаргу, дапамагалі рамантаваць страху, калі яна пасля зімы прасела. Памятаю, мы з аднакласнікамі самі клумбы разбілі вакол школкі, каб прыгажэй было...
— Дзеда! — Паўлінка ад хвалявання ўскочыла з-за стала. — Дык мы таксама можам зладзіць талаку? Давайце разам з мясцовымі жыхарамі адновім парк! У цябе ж ёсць рыдлёўка, так? Мы пасадзім новыя кветкі, пафарбуем арэлі, прыбярэм смецце... І парк зноўку ажыве!
Дзядуля з бабуляй пераглянуліся і ўсміхнуліся адно аднаму.
— Можна паспрабаваць. Рыдлёўка ў мяне дакладна ёсць, — падміргнуў дзядуля.
Наступным днём Паўлінка з Антосем расклеілі па горадзе абвесткі пра сход, прысвечаны аднаўленню парка. У прызначаны час сабралася багата людзей. Яны каля гадзіны абмяркоўвалі магчымы план аднаўлення парка і дамовіліся пачынаць у суботу па абедзе.
Справы было шмат. Пачалі з таго, што агульнымі сіламі прыбралі ва ўсім парку смецце і высеклі сухастой. Праз тыдзень усе, хто меў рыдлёўкі ды капачкі, прыйшлі разбіваць клумбы. Удалося нават выратаваць некалькі старых клумбаў: іх прапалолі ад пустазелля. Паўлінка палола клумбу са сваімі ўлюбёнымі цюльпанамі. Узрыхлілі і ўгнаілі глебу. Сусед дзядзька Нестар, прыцягнуў з гаража газонакасілку і, па чарзе з іншымі жыхарамі, пакасіў у парку ўсю тра-



ву, якая ўжо вымахала яму ажно па пояс. Пасля ўзяліся за аднаўленне арэляў. Але тут узнікла пытанне, дзе ўзяць фарбу: лішняй ні ў кога не аказалася. Праца прыпынілася, ды неўзабаве, на выходныя прыехалі пагасціць бацькі Паўлінкі з Антосем і прывезлі з сабой рэшту фарбы, якая засталася ад рамонту іх гарадской кватэры. Справа зноўку закіпела: арэлі змазалі алеем, каб яны не рыпелі, пафарбавалі — і праз дзень на іх ужо гушкалася мясцовая дзятва. Да справы далучыліся і гарадскія ўлады: пабачыўшы, як шпарка ідзе аднаўленне парка, яны пачысцілі фантан і падключылі ваду.

Напрыканцы жніўня парк распачаў новае жыццё. Жыхары нават зладзілі невялічкае імправізаванае адкрыццё з выступленнем вучняў мясцовай музычнай школкі. Калі Уля,

Паўлінчына сяброўка, выводзіла на скрыпачцы арыю Моцарта, побач у клумбе нешта заварушылася. Паўлінка падышла бліжэй — і нос у нос сутыкнулася з Рыкам. Ён апынуўся далёка не такім агромністым, як падаўся Паўлінцы тады, калі яна яго ўпершыню пабачыла.

— Рык! — выгукнула Паўлінка і працягнула да яго руку.

— Грррррррр! — пагрозліва азваўся сабака.

Паўлінка адхапіла руку. Тут да яе наблізілася бабуля.

— Авохці! Дык гэта ж Філя — сабака нашых былых суседзяў! Яны з паўгады таму пераязджалі ў іншы горад, а ён акурат у той дзень збег. Мы думалі, ён недзе загінуў, а ён жывенькі... Філя, прывітанне! — пасміхнулася бабуля.

Той няпэўна завіляў хвастом і здалёк прынюхаўся да бабулінай рукі.

— Пойдзеш да нас жыць? Мы цябе хоць памыем ды расчэшам, а то вунь, небарака, увесь у каўтунах, — сказала бабуля.



Сабака пачаў няўпэўнена набліжацца да бабулі, але ў апошні момант перадумаў, падаўся назад і знік у кустах.
Пасля ўрачыстага адкрыцця Паўлінка, Антось, бабуля і дзядуля зайшлі на марозіва ў кавярню непадалёк ад парка.
— Ну вось, праз чатыры дні ўжо ў школу, — уздыхнула Паўлінка.
— Нарэшце, хоць адпачну! — з палёгкай сказаў Антось. — А то я ўжо стаміўся ўсе гэтыя клумбы капаць. Такое адчуванне, што ўсё лета насіў на сабе трэсачку, цяжэйшую за мяне ў пяцьдзесят разоў!
— Ну, прыедзеце да нас з дзядулем на восеньскіх канікулах і адпачнеце як след, нічога ўжо не будзеце капаць, — засмяялася бабуля.
— Не-не-не! — запратэставала Паўлінка. — Ніякіх "адпачываць!" Я ўжо распрацавала план, як мы ўвосень будзем ачышчаць ад смецця берагі тутэйшага возера. Кантакты з мясцовымі жыхарамі, ахвочымі дапамагаць, ужо ёсць — дык справа мусіць пайсці ладна.
— О, не! — схапіўся за галаву Антось.
Бабуля, Паўлінка і дзядуля зарагаталі.
— Усё-ткі, дзеда, добрая гэта справа — талака, — падсумавала Паўлінка, даядаючы сваё марозіва.
Калі выйшлі з кавярні ў двор, убачылі насупраць дзвярэй Філю-Рыка. Ён радасна завіляў хвастом і, як падалося Паўлінцы, усміхнуўся: стрымана, але прыязна.



## ЭКСПЕРЫМЕНТ «ТАЛАКА»

*Сябра, узгадай як дзядуля Антося і Паўлінкі патлумачыў ім, што такое талака. Узгадаў? Менавіта гэткім чынам, супольна, можна шмат чаго вырашыць і шмат каму дапамагчы. Вядома, не кожны ведае, што такое талака. Паспрабуй патлумачыць гэта сваім сябрам і зладзіць з імі талаку. Разам вы можаце вызначыць, якія праблемы магчыма вырашыць з дапамогай талакі.*

Памятай, што ўнёсак кожнага вельмі істотны.
Вось некалькі парадаў:

1. Вызначце праблему, якую вы здольныя вырашыць разам.

2. Размяркуйце абавязкі (табліца: Імя, які мой унёсак, ці што я буду рабіць, тэрмін выканання (калі я павінен гэта зрабіць).

3. Калі ўсе зацікаўленыя бакі згодныя — Робім Супольна.

ПАМАЛЮЙ ФЕЛІКСУ ПАТРЭБНЫЯ ЯМУ ІНСТРУМЕНТЫ



## ДАМАЛЮЙ ДЛЯ ЖУЖЫ КВЕТКІ, З ЯКІХ ЯНА АТРЫМАЕ СМАЧНЫ МЁД





РОБІМ СУПОЛЬНА


НДЭІ Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь


Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь


Праект фінансуецца Еўрапейскім Саюзам



Паўнапраўныя асобы. Устойлівае грамадства.

Казка падрыхтаваная ў рамках праекта «Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь», які фінансуецца Еўрапейскім Саюзам і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН. Выкладзеная інфармацыя не адлюстроўвае афіцыйную пазіцыю Еўрапейскага Саюза і ПРААН.

Праект «Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь» накіраваны на стварэнне ўмоў для аб'яднання намаганняў і наладжвання партнёрства органаў улады і грамадзянскіх ініцыятыў для развіцця рэгіёнаў з улікам іх унікальных асаблівасцяў. Праект фінансуецца Еўрапейскім Саюзам (бюджэт € 5 919 975) і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН у партнёрстве з Міністэрствам эканомікі Рэспублікі Беларусь.

Мінск
2018